# Селянская Доля

ВЫДАНЬНЕ НЕ ПЭРЫАДЫЧНАЕ

№ 4. | Лістапад 1921. | Год I.

## Лістапад 1921 г.

25—30 верасьня, у Празе—Чэшскай адбылася Беларуская Нацыанальна-Палітычная нарада, дзе былі прэдстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў і партый з пад розных акупаваных частак нашай многапакутнай Бацькаўшчыны; былі так сама і прэдстаўнікі ад розных загранічных беларускіх арганізацыяў, а тыя, што не маглі прыехаць у Прагу, па тым або іншым варункам,—тыя прыслалі прывітаньня лісты і тэлеграмы. Усяго было 37 дэлегатаў. Па партыйнай прыналежнасьці дэлегаты вось так распрэдзеляліся: Беларускай Партыі Сацыялістаў—Рэвалюцыянэраў—18, Беларускай партыі Сацыялістаў-фэдэралістаў—5, Беларускай Сацыялдэмократычнай партыі—4, Народных сацыялістаў—2, а рэшта былі безпартыйныя, іх было 8. У прэдзыдыум увахадзілі 2 бел. эс-эры і 1 эс-эф. Праца нарады адбывалася глаўным чынам у камісіях; гэтых камісій было чатыры: палітычная, эканамічная, культурна-прасьветная і дапамогі ахвярам вайны і галадаючым. Камісіі, апрацаваўшы адпаведныя рэзалюцыі, выносілі іх на пленум нарады, дзе гэтыя рэзалюцыі падробна і ўсестароньня абгаварываліся і амаль што ня ўсе аднагалосна прыймаліся.

Палітычная камісія апрацавала рэзалюцыі па гэтакім пытаньням: аб Рыжскім трактаце, палажэньне Беларусі пад рознымі акупацыямі, аб чыннасьці Савінкава, аб жыдоўскіх пагромах, аб Слуцкім паўстаньні, аб дзержаўным будаўніцтве Беларусі, аб Віленскім пытаньні; эканамічная камісія, культурна-прасьветная і дапамогі ахвярам вайны і галадаючым апрацавалі па аднэй рэзалюцыі.

---

Мо' хто небудзь запытаіцца: чаму гэта прэдстаўнікі беларускіх арганізацыяў і партый задумалі з'ехацца так далёка, аж у Празе, няўжо такі няможна было з'ехацца ў сваім родным краі? Так, няможна было. У родным краі чужацкімі наездцамі наша думка прыдушана, зацiснуты нам рот; мы ня можам свабодна сабрацца і абгаварыць сваей справы; мы ня можам свободна казаць усей праўды. От чаму і рашылі з'ехацца ў Празе, каб там зусім адкрыта, прад усім сьветам сказаць нашае слова праўды, каб „на сьвет цэлы" паказаць нашу крыўду.

І той, хто ўважліва прачытае ўсе рэзалюцыі, вынясеныя ў Празе, той мусіць з намі згадзіцца, калі ў яго ёсьць яшчэ хоць капля чалавечага сумленьня.

---

Аб чымъ-жа кажуць рэзалюцыі Беларускай Нацыанальна-Палітычнай Нарады ў Празе?—Пачнем папарадку:

1. У рэзалюцыі аб Рыжскім трактаце ясна сказана, што беларускі народ веў, вядзе і будзе вясьці барацьбу за нелажнасьць і непадзельнасць Беларусі. Нарадай пацьверджаюцца ўсе раней вынесяныя пратэсты паасобнымі беларускімі арганізацыямі супроць Рыжскага трактату і заклікае ўсе актыўныя беларускія сілы да самай рашучай рэвалюцыйнай барацьбы супроць падзелу Беларусі і лічыць ворагам белерускага народу кожнага таго, каторы згадзіўся-бы прызнаць Рыжскі мірны трактат.

Няўжо супроць гэтага хоць штонябудзь можна сказаць? Няўжо хто-небудзь прызнае крывавую мяжу-ўздоўж жывога цела Беларусі? Не, мусіць ні воднага ня знойдзецца беларуса, каторыйбы прызнаў гэтае насільства над сваей бацькаўшчынай, ня знайдзецца а ніводнага чэснага чалавека ва ўсім сьвеці, каторы-б не запратэставаў супроць нячуванага гвалту над правам беларускага народу на яго вольнае самаазначэньне. Толькі насільнікі і каты,-людзі ўтраціўшыя сумленьне, толькі прахвосты могуць прызнаваць Рыжскі мірны трактат.

2. У рэзалюцыі аб палажэньні беларускага народу пад акупацыямі гаворыцца як „чырвоныя бальшавікі“ з аднаго боку і „белыя бальшавікі“ з другога, падзяліўшы пажім сябе быццам нейкую бяздушнаю рэч, жывы арганізм беларускаго народу, нівечаць яго сьвятыя правы на волю і незалежнасьць, зьдзекуюцца над яго душой. І гэтак робяць тыя, што напісалі на сваіх штандарах: „мы прызнаем права кожнага народу на самаазначэньне аж дададзяленьня, „мы змагаемся за нашу і вашу свабоду“, каб пасьля ў вайсьці ў сувязь— „як вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі“. Няма што, гэта ёсьць пекныя сьвятыя словы, але што яны азначаюць у вуснах „чырвоных і белых бальшавікоў? —Жыцьцё яскрава паказывае, што гэтыя словы азначаюць у вуснах маскоўскіх бальшавікоў і варшаўскіх паноў. Аб гэтым няма што і казаць. Гэта надта ўжо добра ўсім вядома.

4. Далей ідзе рэзалюцыя аб чыннасьці так званага „бацькі“ Булак-Балаховіча, гэтага авантурніка ды прайдзісьвета, которы, як той смоўж, прыляпіўся да беларускае справы, самавольна называючы сябе галоўнакамандуючым беларускіх вайсковых сіл. Гэты авантурнік, з'яўляючыся пакорным цялём у руках польскіх паноў і жывучы на іх кошт, задумаў стаць вялікім панам і „дыктатарам“ селянскай Беларусі, каб пасьля „на вечныя часы“ далучыць Беларусь да Польшчы.

Зусім слушна нацыанальна-палітычная нарада асудзіла чорную і ганебную дзеяльнасьць Балаховіча, пастанавіўшы лічыць яго „узурпатарам і авантурнікам“.

4. Ня інакш нацыанальна-палітычная Нарада адняслась і да чыннасьці Варыса Савінкава, гэтага вядомага расей-

скага рэнэгата, которы ўсю сваю палітыку пабудаваў на здрадзе і правакацыі. Седзячы ў Варшаве пад апекай яснавельможнага пана Пільсудскага, арганізовываючы там уселякую чорную сотню, Барыс Савінкаў каб аблягчыць сабе барацьбу супроць маскоўскіх бальшаўікоў прыкідаўся прыяцелем высвабадзіцельна-адраджэнскага беларускага руху, вялікім прыхільнікам беларускай справы і нават прызнаў дзержаўную незалежнасьць Беларусі. Але ўзапраўды ён вёў самую, што называецца, недастойную гульню, дапамагаў авантурам Балаховіча, пад беларускім сьцягам рабіў жыдоўскія пагромы, дапамагаў польскім панам прыгнетаць беларускае працоўнае селянства, прыгатаўляў новыя кайданы няволі для беларускага народу. Прызнаючы дзержаўную незалежнасьць Беларусі, Барыс Савінкаў ў той-жа самы час прызнаў Рыжскі мірны трактат, падараваў польскім панам, як відаць за прыемную гасьціннасьць у іх, усю Віленшчыну і Гораdзеншчыну і частку Меншчыны.

Зусім справедліва нацыянальна-палітычная Нарада пастанавіла лічыць яго „правакатарам беларускай дзержаўнасьці і ворагам беларускага народу“.

5. Ідзе рэзалюцыя проціў жыдоўскіх пагромаў. Што можа быць больш ганебнага, больш недастойнага як жыдоўскія пагромы, якія сталіся ў апошнія часы.

Хто іх арганізаваў, чые рукі павінны ў бязвіннай жыдоўскай крыві? У рэзалюцыі ясна сказана, што выпадкі „крывавых эксцэсаў з жыдамі забавязаны сваім пахаджэньнем бандам Савінкава і Будзённага“.

Вось хто вінаваты ў праліцьці бязвіннай жыдоўскай крыві, у праліцьці крыві жыдоўскай беднаты. Само сабой, што ў гэтым шмат вінаваты і акупацыйныя ўлады, дапаскаючыя жыдоўскія пагромы азьвярэўшых бандаў Савінкава і Балаховіча; Але павінен быць, нарэшці, палажаны канец, „агіднай пагромнай агітацыі“, павінны быць спыняны жыдоўскія пагромы, і нацыянальна-палітычная нарада пратэстуе супроць агітацыі цёмных сіл на беларускай зямлі „звяртаецца да беларускага народу з прасьцярогай і просьбай ня прымаць учасьця ў гэтай працы бандытаў, але ўсімі сіламі бароцца з ёй. А мы, разам з гэтым, скажамо: і жыдоўскае грамадзянства няхай не сядзіць злажыўшы сваіх рук і не чакае ў мора пагоды, а зараз-жа няхай становіцца цьвёрда і рашуча побач у рады беларускіх змаганьнікаў за волю і незалежнасьць роднага краю, бо толькі ў незалежнай Беларусі здабудзе сабе роўнае права на волю і шчасьце.

6. Тое, што беларускі народ ужо прачнуўся ад летаргічнай векавой няволі ужо паўстаў з нябыцьця найляпей аб гэтым сьведчыць усенароднае Слуцкае паўстаньне ў сьнежні 1920 г. Нараду з селянскімі паўстаньнямі ў Вітэбшчыне і ў Смаленшчыне 1917—1918 г.г., ў Піншчыне 1918-1919 г.г., ў Меншчыне і Гарадзеншчыне 1920 г., Ашмяншчыне 1921 г.-Слуцкае паўстаньне ў сьнежні 1920 г. з'яўляеццанай

яскраўшым момантам у гэроічным змаганьні беларускага народу за волю і незалежнасьць. Слуцкія селяне-земляробы, паўстаўшы з аружжам ў руках на барацьбу за волю сваей бацькаўшчыны, напісалі на сваім штандары: „ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камісараў“. Быў склікаты з'езд Случчыны, на якім свабодна была выбрана Рада Случчыны, якая і кіравала паўстаньнем. Да гэтага паўстаньня стараліся прымазацца рожныя „балахоўцы“ і „савінкаўцы“, стараліся справакаваць паўстанцаў на свой бок, але ўсе яны з агідай былі адкінуты—Случчакі йшлі сваей уласнай дарогай, яны моцна сталі на тую „сцежаньку, якая вядзе ў родну межаньку“, а не ў Варшаву ці то ў Маскву.

У гэтым і ёсць вялікае ідэйнае і гістарычнае значэньне для ўсей беларускай справы ўсенароднага Слуцкага паўстаньня.

У рэзалюцыі па гэтаму пытаньню сказана, што „паўстаньне было задушана перэважаючымі сіламі з абадвух бакоў“,—гэта значыць „саюзнымі сіламі чырвоных і белых бальшавікоў“.

Заклікаючы беларускі народ да актыўнага рэвалюцыйнага змаганьня супроць акупантаў, нацыянальна-палітычная Нарада адзначае, што „каб ня было непатрэбнага праліцьця крыві, устрымацца ад неарганізаваных выступленьняў, але моцна аб'еднаць свае рады к таму мамэнту, калі праб'е час усенароднага змаганьня за правы кождага народу быць гаспададаром у сваім краі“.

7. Аб дзержаўным будаўніцтве Беларусі Нацыянальна-палітычная Нарада зусім ясна і конкрэктна выказала свой пагляд, ласьне—Беларусь павінна быць незалежнай і непадзельнай дзержавай працоўнага народу і ніякія, так званыя, арыентацыі ня могуць служыць падставай дзержаўнага будаўніцства. У рэзалюцыі проста сказана, што „адзінай асновай дзержавы, адзінай сілай, якая збудуе Беларусь і забеспечыць ёй нармальнае развіцьцё, з'яўляецца сам беларускі працоўны народ“. А прыймаючы пад увагу, что Беларусь гэта ёсьць край выключна селянскі, асновай беларускай дзержаўнасьці з'яўляецца працоўны сермяжны селянін, забеспечэньне інтарэсаў каторага ў незалежнай беларускай дзержаве павінна будзе стаяць на першым мейсцы.

Далей ў рэзалюцыі сказана, што пасьля зьдзейсьненьня незалежнай беларускай дзержаўнасьці „Беларусь працягне руку згоды дзеля вольнага саюзу ўсім народам, з якімі яна жыве побач і якіх яна лічыць за роўных братоў сваіх“. Дзеля якой мэты патрэбен будзе такі вольны саюз? Ясна—„першай мэтай гэтага саюзу павінна быць узаемная абарона народных вольнасьцяў, якія здабудуць народы сваей барацьбой“. Такім чынам выходзіць, што толькі сам беларускі народ мае права устанаўляць уклад свайго ўнутраннага дзержаўнага жыцьця і пастанаўляць аб сваіх адносінах да суседзяў.

У другой частцы рэзалюцыі аб дзержаўным будаўніцтва Беларусі гаворыцца

аб сучасным мамэнці. Нацыянальна-палітычная Нарада зазначае, што „Адзіным законадаўчым органам Беларусі з'яўляецца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі“, якая выпаўняе волю першага Ўсебеларускага З'езду 1917 г.; што „адзінай уладай Беларусі зяўляецца Урад Б. Н. Р. выбраны Радай Б. Н. Р. Нацыянальна-палітычная Нарада пастанавіла аб'еднаць каля Ураду Б. Н. Р. сілы ўсіх партый, арганізацый і груп, каб адзінай згоднай грамадой ісьці к намечанай цэлі

8. Што датыча Віленскага пытаньня, так званай, штучна польскімі панамі ўтворанай „Сярэдняй Літвы“, то нацыянальна-палітычная Нарада, з поўнай ясмасьцю разумеючы труднасьць развязаньня гэтае праблемы, рашуча заявіла, што „слаўная сталіца стар[illegible] беларуска-Літоўскага Князьства—Вільня павінна зрабіцца не яблыкам спрэчкі паміж беларускай і літоўска[illegible]эмократыямі, але фактарам іх аб'еднаньн[illegible]. Гэтае аб'еднаньне найбольш патрэбна ў сучасныя момант, калі над беларуска-літоўскай землёй нависла чорная хмара польскай панска-шляхэцкай небязпекі, навісла пагроза польскага імпэрыялізму, які імкнецца захапіць у свае чэпкія лапы беларускі і літоўскі народ. От-жа, неабходна дружма стаць супроць векавечнага ворага, неабходна прагнаць польскіх акупантаў з іх наймітамі ды падлыжнікамі.

9. У рэзалюцыі аб экамычным палажэньні Беларусі нацыянальна-палітычная Нарада, рашуча выступае супроць хіжацка-грабэжніцкай гаспадаркі акупантаў, пратэстуе супроць вынішчэньня беларускіх лясоў і руйнаваньня акупантамі народнай гаспадаркі. Асаблівую ўвагу Нацыянальна-палітычная Нарада зьвярнула на каланізацыю беларускіх зямель польскімі жаўнерамі. От-жа, рашуча заяўляе, что Беларусь „ніколі не прызнае польскіх каланістаў сваімі раўнапраўнымі грамадзянамі і заклікае беларускі народ на самую рашучую барацьбу з польскай каланізацыей“.

10. У справе-культурна-прасьветнай нацыянальна-палітычная Нарада, канстатуючы ганебнейшы ўціск акупантаў над беларускай культурай, зьвяртаецца да беларускага народу, да лепшай часткі беларускай народнай інтэлігэнцыі—народнага вучыцельства, вітае іх бязупыннае і цяжкае змаганьне за сваю культуру мову, заклікае „ні на адзін мамэнт, ні ў водным мейсцы не адступаць перад зьдзекамі і ўціскам пануючых наездцаў і ўсімі сіламі, ўсімі спосабамі бараніць сваю культуру і мову“.

11. Вялікую ўвагу нацыянальна-палітычная Нарада зьвярнула на вельмі цяжкае становішча нашых бежанцаў. У рэзалюцыі зусім праўдзіва гаворыцца, што Савецкая Расія і Польшча „сьвядома і па ўзаемнаму падтрыманьню вядуць беларускі народ да поўнага матэрыяльнага і моральнага занепаду“. Нацыянальна-палітычная Нарада зьвертаецца „да ўсіх культурных людзей ўсіх грамадзкіх, ўрадавых і добрачынных арганізацыяй і устаноў, асабліва да Жэнэўскага Чырвонага Крыжа, с просьбай

дапамагчы беларускаму народу праз яго дабрачынныя аргаізацыі“.

---

Дык вось якую праўду сказалі „на сьвет целы“ прэдстаўнікі берарускіх арганізацый і партый у Празе. Няхай цяперака сам беларускі народ скажа сваё апошняе і рашучае слова. Мы верым, што надыходзе грозны час вялікага народнага суда, і ня будзе тады літасьці над гвалтоўнікамі і крывавымі катамі, народ прагоне з свайго роднага краю чужацкіх наездцаў—акупантаў. У вольнай і незалежнай сваей бацькаўшчыне ўстановіць лад новага жыцьця вольнай творчай працы і шчасьця.

**Т. Глеба.**

---

# РЭЗАЛЮЦЫІ,

## прынятыя на Беларускай Нацыанальна-Палітычнай Нарадзе ў Празе:

---

### I.

### АБ РЫЖСКІМ ТРАКТАЦЕ.

Стоючы на грунце граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25-га сакавіка 1918 г., абвесьціўшай незалежнасьць Беларусі ў межах лічэбнай перавагі беларускага народу, Беларуская Нацыанальна-Палітычная Нарада ў Празе, зложаная з предстаўнікоў беларускіх палітычных партый і арганізацый з пад усіх цяперашніх акупацый Беларусі. сабраўшыхся ў Прагу аднагалосна заяўляе:

1. Белрускі народ вёў, вядзе і будзе вясьці барацьбу за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі;

2. усе ранейшыя пратэсты беларускіх палітычных і нацыанальных арганізацый, у свой час заяўленыя супроць Рыжскага Трактату, дзелючага Беларусь паміж Расеяй і Польшчай, Нарадай аднаголасна падцьверджаюцца;

3. Беларуская Нацыанальна-Палітычная Нарада ў Празе заклікае ўсе актыўныя беларускія сілы да самай рашучай рэвалюцыйнай барацьбы ўсякімі маючыміся ў іх распараджэньні спосабамі супроць падзелу Беларусі і заклікае лічыць ворагам беларускага народу кожнага таго, каторы згадзіўся 'бы прызнаць Рыжскі мірны трактат.

---

## II.

# ПАЛАЖЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ ПАД АКУПАЦЫЯМІ.

Беларуская Нацыанальна-Палітычная Нарада ў Празе, разважыўшы палажэньне беларускага народу пад расійскай і польскай акупацыямі, сьцверджае, што:

1. Пад расійскай акупацыяй у гэты момэнт знаходзіцца больш як 206.000 кв. кл. беларускай тэрыторыі, з ліку якой расійскі савецкі урад 153.000 кв. кл. далучыў безпасрэдна да Расіі, а на 53.000 кв. кл. утварыў фікцыю савецкай Беларусі. На тэрыторыі савецкай Беларусі расійскі савецкі ўрад устанавіў уладу, зложаную з чужых беларускаму народу элемэнтаў, каторымі кіруе цэнтральны савецкі ўрад з Масквы. Шырока рэклямаваная толерантнасьць савецкай улады да беларускага адраджэнскага руху, у савецкай Беларусі дагэтуль ня выйшла з чыста дэкляратыўных рамак і для нацыянальна-культурнага адраджэнскага руху ў савецкай Беларусі дагэтуль нічога ня зроблена.

На беларускай тэрыторыі, далучанай безпасрэдна да Расіі, беларускае насяленьне падлегае самай натужанай русіфікацыі і пазбаўлена ўсіх, як палітычных, гэтак і нацыанальна-культурных правоў; урадовай мовай з'яўляецца мова расійская, беларускія газэты забаронены, беларуская адраджэнская праца тлуміцца турмой і разстрэламі.

2. Пад польскай акупацыяй знаходзіцца больш як 100.000 кв. кл. беларускай зямлі: на захопленых польскімі імпэрыялістамі беларускіх землях бушуе цяпер нічым неаграмічаны польскі шовінізм і нячуваны нацыанальны і сацыяльны уціск і зьдзек над беларускім народам. З мэтай задушыць беларускую культуру і інтэлігэнцыю, кіруючыся да поўнага зьнішчэньня на гэтых землях беларускага племяні, землі беларускіх уецкачоў польскі ўрад раздае салдатам, ураджэнцам Польшчы. Сьвядомае беларускае селянства польскі ўрад гноіць па турмах і канцэнтрацыйных лагерах, ён зачыняе культурныя, нацыянальныя і эканамічныя арганізацыі, забараняе друк, беларускую школу і мову.

Беларуская Нацыанальна-Палітычная Нарада, ў імя справядлівасьці і захаваньня беларускай нацыі і культуры, вымагае ад Лігі Нацый і ўсіх народаў сьвету, адкінуць агідны польскі шовінізм і імпэрыялізм у яго этнаграфічныя межы за Буг і Нарэў.

## III.

## АБ ЧЫННАСЬЦІ БАЛАХОВІЧА.

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, абмеркаваўшы выступленьні Балаховіча пад нацыянальным беларускім штандарам, пастанаўляе:

1. што Балаховіч ня мае ніякага падтрыманьня з боку беларускіх нацыянальных і палітычных арганізацый;

2. што зьвязаўшы сваё імя з беларускім вызваленчым рухам, ён дагэтуль не ачысьціў сябе ад пазорачых беларускае імя абвінавачаньняў у жыдоўскіх пагромах і грабежствах;

3. што ён самавольна абвесьціў сябе галоўнакамандуючым беларускіх вайсковых сіл і

4. дазволіў сабе выдаваць акты дзержаўнага значэньня. —

Дзеля гэтага Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада Празе лічыць Балаховіча, — да таго часу, пакуль ён не апраўдае сябе перад беларускім грамадзянствам, — узурпатарам і авантурнікам.

## IV.

## АБ ЧЫННАСЬЦІ САВІНКАВА.

Прыймаючы пад увагу, што Савінкаў выступае за граніцай ад імені Беларусі, і беларускім нацыянальным штандарам прыкрывае авантуры польскай і расейскай рэакцыі, арганізуючай на ўсходняй Беларусі жыдоўскія пагромы і правакацыйныя паўстаньні, а ў заходняй Беларусі кіруючай абрусіцельнай працай, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе зазначае, што Савінкаў ня мае ніякай зьвязі з беларускімі палітычнымі і нацыянальнымі арганізацiямі і з'яуляіцца правакатарам беларускай дзержаўнасьці і ворагам беларускага народу.

## V.

## ПРОЦІЎ ЖЫДОЎСКІХ ПАГРОМАЎ.

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, азнаёміўшыся з дакладам аб меўшых у апошнія часы выпадках жыдоўскіх пагромаў, канстатуе:

1. што на беларускай зямлі за ўвесь час многавекавога супольнага жыцьця беларусаў і жыдоў ня было ні воднага выпадку, каб мірнае жыцьцё 12 мільённага беларускага народу з 3 мільённым народам жыдоўскім ацемрылася якім колячы крывавым эксцэссам;

2. што быўшыя ў апошнія месяцы, з паяўленьнем на Беларусі аккупацыйных польскіх і чырвонаармейскіх войск, некалькі выпадкаў крывавых эксцэссаў з жыдамі, забавязаны сваім пахаджэньнем бандам Савінкава і Будзённага.

Дзеля таго, што гэтыя агідныя выпадкі робяцца на беларускай зямлі і могуць мець уплыў на дзе-якія несьвядомыя массы беларускага селянства, уцягнуўшы і справацыраваўшы іх на гэтыя крокі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе рашуча пратэстуе проціў агітацыі цёмных сіл на беларускай зямлі і зьвертаецца да беларускага народу з перасьцярогай і прозьбай ня прыймаць учасьця ў гэтай працы бандытаў, але ўсімі сіламі бароцца з ей.

З другога боку, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада падкрэсьлівае, што ўсе адозвы Ўраду Б. Н. Р. да польскага і савецкага ўрадаў з пратэстамі і вымаганьнем увясьці дысцыпліну ў аккупацыйныя войскі і палажыць канец агіднай пагромнай агітацыі, ня толькі не далі дагэтуль ніякіх рэзультатаў, але нават засталіся без адказу.

Дзеля гэтага, ўсю адпаведнасьць за эксцэссы, магучыя быць у будучыне ў межах аккупаванай Беларусі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада цалком вазлагае на сучасных аккупантаў Беларусі.

---

## VI.

## АБ СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЬНІ.

Селянская Беларусь, прачнуўшаяся ад літаргічнага сну векавой няволі, распачала змаганьне за сваё вольнае і роўнае жыцьцё сярод іншых вольных народаў.

Чацьвёрты ўжо год змагаецца Беларусь з насільствам рожных аккупанваў. У гэтым змаганьні беларускі народ добра сябе ўсьвядоміў, што справа вызваленьня і адраджэньня яго Бацькаўшчыны, ёсьць справа яго ўласных рук. Беларускі народ пераканаўся, што ні ад Масквы ні ад Варшавы яму няма чаго чакаць для палепшаньня сваей долі.

Цэлым радам паўстаньняў, у працягу гэтых чатырох гадоў, беларускі народ ясна паказаў, куды ён імкнецца і на каго пакладае ўсе свае надзеі.

Найяскраўшым момэнтам у гэтым гэраічным змаганьні, апрача паўстаньняў у Віленшчыне, Вітэбшчыне, Ашмяншчыне і г. д., з‘яўляецца паўстаньне ў Случчыне, калі сам сермяжны народ, стыхійна паўстаўшы з аружжам у руках за незалежнасьць і непадзельнасьць сваей бацькаўшчыны, напісаў на сваім штандары: „ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камісараў!“

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада канстатуе, што гэтае паўстаньне было задушана пераважаючымі сіламі з абодвых бакоў.

Слава паўшым змаганьнікам!

Бел. Нац.-Паліт. Нарада перасьцерагае беларускі народ, каб ня было непатрэбнага праліцьця крыві, устрымацца ад неарганізаваных выступленьняў, але моцна аб‘еднаць свае сілы к таму момэнту, калі праб‘е час усенароднага рэвалюцыйнага змаганьня за права кожнага народу быць гаспадаром у сваім краі.

---

## VII.

## АБ ДЗЕРЖАЎНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ БЕЛАРУСІ.

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, абмеркаваўшы пытаньне аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі, у поўнай сьвядомасьці надзвычайнай вагі гэтага пытаньня, зазначае:

а. Беларусь з‘яўляецца краем працоўнага беларускага селянства, рабочых і працоўнай інтэлігэнцыі, — дзеля чаго Беларусь павінна быць дзержавай працоўнага народу;

б. Беларусь павінна быць дзержавай непадзельнай і ні ад каго незалежнай. Нарада зазначае, што ніякія, гэтак званыя, арыентацыі ня могуць быць падставай дзержаўнага будаўніцтва Беларусі. Адзінай асновай дзержавы, адзінай сілай, якая збудуе Беларусь і забяспечыць ёй нармальнае развіцьцё, з‘яўляецца сам працоўны беларускі народ;

в. пасьля зьдзейсьненьня беларускай дзержаўнасьці, пасьля таго, як на беларускей зямлі запануе ўласная ні ад каго незалежная ўлада, Беларусь працягне руку згоды, дзеля вольнага саюзу, усім народам, з якімі яна жыве побач і якіх яна лічыць за роўных братоў сваіх. Першай мэтей гэткага саюзу павінна быць узаемная абарона народных вольнасьцяў, якія здабудуць народы сваей барацьбой.

Прыймаючы пад увагу сучасны стан Беларусі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада зазначае:

а. што адзіным законадаўчым органам Беларусі з'яўляецца Рада Б. Н. Р„ маючая прыемсцьвеннасьць улады ад Усебеларускага Кангрэсу 1917 г.;

б. што адзінай уладай Беларусі з'яўляецца Урад Б. Н. Р., маючы мандат ад Рады Б. Н. Р.

Прыймаючы пад увагу, што праца Ураду Б. Н. Р. з'яўляецца адпаведаючай тым мэтам, якія прыняты Нарадай і што ў першую чаргу яна кіруецца да абароны непадзельнасьці — незалежнасьці Беларусі, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада пастанаўляе аб'еднаць каля Ураду Б. Н. Р. сілы ўсіх беларускіх партый, арганізацый і групп дзеля дзержаўнага будаўніцтва Беларусі.

---

## VIII.

## ПА ВІЛЕНСКАМУ ПЫТАНЬНЮ.

Прымаючы пад увагу, што пытаньне дзержаўнай належнасьці Віленскай тэррыторыі, на якой беларусы складаюць пераважаючую большасьць, вырашана Лігай Нацый без учасьця прэдстаўнікоў беларускага народу і нават без фармальнага азнаямленьня з яго воляй шляхам свабоднага народнага рэфэрэндуму, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе, стоячы на грунце абароны правоў народа на яго тэррыторыі, зазначае, што пастанову Лігі Нацый беларускі Народ будзе лічыць часовай да момэнту скліканьня найвысшага законадаўчага Органу Беларусі, якому адзіна прыналежыць права ўстанавіць сталыя межы Беларусі.

Пастановы Лігі Нацый, трактуючыя беларусаў у Віленшчыне, як нацыянальную меньшасьць, з‘яўляюцца працівагаворучым фактам жыцьця, дзеля чаго Нарада рашуча проціў іх пратэстуе.

Прызнаючы Літву за векавога гістарычнага сябра народу беларускага, з якім яе зьвязывае агульнасьць як палітычных, гэтак і эканамічных інтэрэсаў, Нарада выражае сваю пэўнасьць, што Беларусь і Літва знойдуць цяпер, як і раней, адпаведныя шляхі добрасуседзкага жыцьця. Слаўная сталіца старога Беларуска-Літоўскага Князьства — Вільня павінна зрабіцца не яблыкам спрэчкі паміж беларускай і літоўскай дэмакратыямі, але фактарам іх аб‘еднаньня.

З другога боку, Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада заяўляе, што яна лічыцца з той небязпекай з боку польскага імпэрыялізму, якая схована ў прынятай Радай Лігі Нацый канстытуцыйнай канструкцыі новай Літвы і лічыць патрэбным, у згодзе з народам літоўскім, прылажыць усе ўсільля да таго, каб плян захопленьня беларуска-літоўскай зямлі і закабаленьня беларускага і літоўскага народаў Польшчай ня быў выкананы.

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада з глыбокім жалем зазначае, што пастанова Рады Лігі Нацый, аддаючы беларускае Гродна і ўсю Горадзеншчыну пад уладу Польшчы, з‘яўляецца чарговым падзелам Беларусі, зробленым на гэты раз ужо не ваюючымі старанамі, але міжнароднай установай, павіннай быць арэопагам справядлівасьці.

Горадзеншчына павінна быць зьвернута Беларусі, Горадзеншчына павінна быць аб‘еднана з усей беларускай зямлёй. Няхай ведае беларускае насяленьне Горадзеншчыны, што сьвяты час гэтага аб‘еднаньня хутка праб‘е і няхай ня трацідь веры ў гэта ў будучай барацьбе.

---

## IX.

## АБ ЭКАНАМІЧНЫМ ПАЛАЖЭНЬНІ БЕЛАРУСІ.

У момант, калі беларускі народ часова ляжыць распластаны і абезволены сваімі суседзямі, калі ён ня можа сам распараджацца сваім дабром, калі міліёны беларусаў яшчэ не вярнуліся з выгнаньня, у якім яны апынуліса ў час вялікай эўрапейскай вайны, — акупанты як з усходу, так і з заходу, як маскоўскія камуністы, так і палякі хіжацка эксплёатуюць, грабяць і распрадаюць дабро беларускага народу, стараюцца для падняцьця эканамічнага стану сваіх мэтраполій раздаць нявыгадныя для беларускага народу канцэсыі, стараюцца ў рэшці

насільна калёнізаваць часова апусьцеўшыя і нават неапусьцеўшыя землі сваімі салдатамі, ставячы Беларусь перад праблемай эміграцыі.

Беларуская Нацынальна-Палітычная Нарада, уважаючы цяперашніх гаспадароў на Беларусі, як часовых акупантаў, ня маючых права на дабро беларускае, — рашуча пратэстуе проці хіжацкай і грабежнай палітыкі акупантаў і заяўляе, што:

1. распрадажа лясоў, зямель і другога багацьця беларускага народу суседзямі акупантамі ёсьць грабежства, з якім беларускі народ будзе вясьці барацьбу;

2. раздача акупантамі канцэсый на Беларусі чужынцам ёсьць насільле, з якім беларускі народ ніколі ня згодзіцца, але, наадварот, будзе вясьці барацьбу. Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада папярэджывае канцэсыянэраў, што права на канцэсыі, выданыя акупантамі, і іншыя дагаворы Беларусь ніколі ня прызнае;

3. насільная калёнізацыя польскімі жаўнерамі Віленшчыны і Горадзеншчыны робіцца бяз згоды беларускага народу, але, наадварот, супроць яго волі і пратэстаў. Дзеля гэтага Беларусь будзе вясьці самую рашучую барацьбу з калёнізацыяй і ніколі ня прызнае калёністаў за сваіх грамадзян.

---

X.

## РЕЗАЛЮЦЫЯ КУЛЬТУРНА-ПРАСЬВЕТНАЙ СЭКЦЫ.

Беларуская Нацыанальна-Палітычная Нарада ў Празе, азнаёміўшыся з становішчам беларускай культурна-прасьветнай працы на Беларусі і за яе межамі, сцьверджае.

1. У межах польскай акупацыі на Беларусі, зробленай з маўклівай згоды вялікіх дзержаў, пануе ганебнейшы ўціск над беларускім народам і яго культурай; зачыняюцца сотні беларускіх школ, тэррорызуецца беларускае вучыцельства, забараняецца беларуская мова, арэштовываецца і высылаецца за межы сваей бацькаўшчыны беларуская інтэлігэнцыя, вывозюцца беларускія дзеткі ў глыб Польшчы ў польскія прытулкі, душыцца беларуская прэсса, спыняецца беларуская выдавецкая праца і ва ўсім правадзіцца прымусовая палёнізацыя беларускага народу.

2. Ў межах акупацыі бальшавіцкай і ў г. зв. Савецкай Беларусі становішча мала чым рожніцца ад ўціску польскага, беларускую школу адчыняюць з вялікай неахвотай і ўступаючы толькі моцным вымаганьням беларускага селянства; беларускае выдавецтва, ўсімі спосабамі тармазіцца, а ў беларускую вышэйшую школу стараюцца ўліць моцную струю русіфікацыі.

Але беларускі народ, яго інтэлігэнцыя і вучыцельства моцна змагаюцц з ганебным ўціскам акупантаў і, не шкадуючы свайго жыцьця, баронюць сваю культуру, прасьвету і мову.

Беларуская Нацынальна-Палітычная Нарада ў Празе, адзначаючы перад усімі народамі сьвету зьдек над беларускім народам, просіць і вымагае ад усіх іх і ад іх рэпрэзэнтацыйнага органу—Лігі Нацый, безадкладнага ўмешчацельства ў безкантрольнае гаспадарнічаньне на беларускай тэрыторыі чырвоных і белых імпэрыялістаў—аккупантаў і спыненьня іх шкоднай працы.

Адмечаючы ганебную антыбеларускую працу сучасных акупантаў Беларусі, Нарада ня можа ня вітаць дэмакратычна-праўныя крокі Латвійскай і Літоўскай рэспублік, якія абвесьцілі правы на нацыянальна-культурную аўтаномію беларускай нацыянальнай меньшасьці ў гэтых рэспубліках і далі ім магчымасьць правесьці гэтае права ў жыццьё.

Зварачываючыся да беларускага народу і яго інтэлігэнцыі, Беларуская Нацыянальна-палітычная Нарада вітае іх безупыннае і цяжкае змаганьне за сваю культуру і мову і заклікае ні на адзін момэнт, ні ў водным мейсцы не адступаць перад зьдзекам і ўціскам часова пануючых наездцаў, ўсімі сіламі, ўсімі спосабамі бараніць сваю культуру і мову, што з'яўляецца грунтам нашай незалежнасьці і непадзельнасьці.

---

## XI.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ СЭКЦЫІ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ВАЙНЫ І ГАЛАДАЮЧЫМ.

Секцыя дапамогі ахвярам вайны і галадаючым, маючая ў сваім складзе прэдстаўнікоў ад: 1) Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжа, 2) Беларускага Т-ва дапамогі ахвярам вайны і 3) Беларускага грамадзянскага камітэту дапамогі галадаючым на Беларусі, просіць Нацыянальна-палітычную Нараду давясьці да ведама ўсіх культурных народаў ніжэйпаданую рэзалюцыю:

1. З 1914 г. да 1917 г. тэрыторыя Беларусі была арэнай жорсткіх крывавых боек паміж расійскай і нямецкай арміямі. На працягу гэтых трох страшэн-

ных гадоў імпэрыалістычнай барацьбы, дабрабыт нашага народу быў зруйнаваны ў шчэнт.

Па Берасьцейскаму міру, замоўленаму паміж Расіяй і Нямеччынай супроць волі нашага народу, Беларусь была аддана пад цяжкую акупацыю нямецкай арміі. Нямецкая акупацыя, быўшая надзвычайна цяжкай эканамічнай кабалой для нашага народу, з‘явілася чарговым ударам па добрабыту нашага народу.

Пасьля адходу нямецкага войска зараз жа на зьмену ім прыйшла яшчэ цяжэйшая акупацыя імпэрыалістычнай Польшчы. У той самы час, як іншыя народы, як чэшскі, бэльгійскі, літоўскі, зруйнаваныя імпэрыялістычнай вайной, пачалі жыць спакойным жыцьцём і адбудовываць свой дабрабыт, новае цяжкае гора абхапіло Беларусь: яна зноў стала арэнай новай імпэрыалістычнай бойні савецкай Расіі з Польшчай, зноў многакапутны беларускі край задыхаўся ў дыме пажараў і заліваўся крывёй.

Па рыжскаму трактату Беларусь жорстка падзеляна паміж савецкай Расіяй і Польшчай, якія сьвядома і па ўзаемнаму падтрыманьню вядуць беларускі народ да поўнага матэрыяльнага і маральнага занепаду.

У часе міравой вайны каля двух мільёнаў беларускіх грамадзян было гвалтам выселена ў глыб Расіі, ў Сыбір, Туркестан і Каўказ. Гэтыя бежанцы-беларусы ўжо сем гадоў жывуць на чужыне, церпяць голад і холад і не маюць ніякай магчымасьці вярнуцца на бацькаўшчыну. Напрацягу гэтых 7 гадоў і Расійскі-савецкі ўрад і польскі, ня толькі ня дапамагаюць нашым уцекачам вярнуцца ў родны край, а, наадварот, робяць усякія перашкоды іх звароту. І цяпер, калі ад жаху галоднай сьмерці ў Паволжы, дзесяткі тысячаў уцекачоў беларусаў кінуліся на бацькаўшчыну,—польскі ўрад ня пушчае іх праз сваю граніцу і аддае іх на пэўную згубу ад голаду і эпідэмій. А тым беларускім уцекачам, якія ня гледзючы на польскія заставы, прабіраюцца на родную зямлю, тыя якія вярнуўшыся дамоў, знаходзюць папаленыя альбо зруйнованыя вёскі, альбо знаходзюць на сваей уласнай зямлі новага ўласьніка свайго дабра—польскага жаўнера, тым беларусам уцекачам, якія прымушаны з повада гэтага жыць у старых зямлянках і акопах і карміць сябе і сваіх дзяцей жабрацтвам, гэтым беларусам. польскі ўрад не дае абсалютна ніякай дапамогі, ў той самы час дапамагаючы ўцекачам расійцам і украінцам.

Дзесяткі тысяч беларускіх сыноў, насільна ўзятых у расійскае войска, ходам падзей, апынуліся ў концэнтрацыйных табарах Турэччыны, Баўгарыі і Сэрбіі.

Сотні лепшых сыноў нашай бацькаушчыны сядзяць у бальшавіцкіх і польскіх турмах, церпячы голад і зьдзек над іх нацыянальным пачуцьцём.

Сучаснае становішча беларускага народу, нявымоўна цяжкае, ня толькі таму, што ён цярпеў і да гэтага дня цярпіць ад чужацкіх акупацый, але яшчэ і таму, што ўвесь культурны сьвет заставаўся і застаецца спакойным, калі беларускі народ задыхаецца ў клешчах няволі і голаду.

Становішча беларусаў—уцекачоў у Савецкай Расіі, ў бальшавіцкіх турмах і прымусовых табарах, становішча вярнуўшыхся ў родны край, знаходзячыхся пад польскай акупацыяй,—нячувана цяжкае і бязвыхаднае таму, што ні савецкі урад, ні польскі, не дазваляюць нашым дабрачынным арганізацыям абсьледаваць іх цяжкай жыцьцё і прынесьці ім помач.

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе зьвертаецца да ўсіх культурных людзей, грамадзкіх і ўрадовых дабрачынных арганізацыяў і устаноў асабліва да Жэнэўскага Чырвонага Крыжа з прозьбай дапамагчы беларускаму народу праз яго дабрачынныя арганізацыі.

# Беларусы ў Амэрыцы.

Да нас даходзяць весткі, што беларусы ў Амэрыцы ўсё больш і больш цікавяцца доляй сваей Бацькаўшчыны-Беларусі, дзе засталіся іх браты, сёстры, ды бацькі. У канцы мая гэтага году ў Бронзвілі (бліз Ньюёрка) адбыўся вялікі сход беларусаў, на якім быў прачытаны даклад у беларускай мове адным беларускім вучоным грам. Гайдуком на тэму „Беларусь і рыжскі мір“, а пасьля былі гутаркі аб сучасным палітычным становішчы беларусі. У канцы быў выбраны беларускі нацыянальны камітэт у складзе гр. гр. Капца, Гайдука, Крывулька, Зварыка і Бубешка.

У пачатку чэрвеня камітэт арганізаваў беларускае прэс-бюро, якое ставіць сваей мэтай азнаямлеаьне грамадзянства ў Амэрыцы з тым, что дзеіцца у Беларусі, якая вось ужо каторы год змагаецца за сваю дзержаўную незалежнасьць, будзе старацца дапамагчы моральна і матэры-

альна ў гэтым змаганьні, а так сама займацца пашырэньнем сярод выхадцаў з Беларусі газэт, кніг ды іншых выданьняў ў беларускай мове, арганізацыя лекцый, дакладаў і рэфэратаў ў справе адраджэньня Беларусі.

Беларускае прэс-бюро ў Амэрыцы стаіць на грунце незалежнасьці, непадзельнасьці Беларусі і за перадачу ўсей зямлі ды ўлады ў рукі беларускага народу.

А ў Чыкаго 6-га жніўня адбыўся вялікі мітынг, на якім быў выбраны камітэт абароны Беларусі. Гэты камітэт выдаў вось гэтакую адозву да ўсіх беларускіх выхадцаў, што жывуць у Злучаных Штатах і Канадзе.

---

# АДОЗВА

## да усіх беларускіх выхадцаў, што жывуць у Злучаных Штатах і Канадзе.

„Таварышы! Цяжкія, непраглядныя хмары навісьлі над нашай бацькаўшчынай. Многапакутны і шмат цярпялівы беларускі народ, перанёсшы ўвесь ціжар рускага самадзержаў'я, а за тым да шчэнту зруйнаваны і аграблены польскімі імпэрыалістамі, которыя ўсімі сіламі стараюцца зьніштожыць яго самабытныя нацыянальныя адзнакі і паняволіць на вечныя часы.

Шляхэцкая Польшча, якая ўчора сама толькі высвабадзілася з—пад самадзержаўнага гнёту, сягоньня, як той дзікі зьвер, кідаіцца на безабаронны беларускі народ, заўладае душой і целам яго, высіскае з яго ўсе жывыя сокі. Адтуль прыходзяць страшныя весткі.

Увесь беларускі край напоўняны польскімі жандарамі, дзікасьць каторых пераходзіць уселякія межы. Польская мова афіцыяльна ўведзяна на ўсей Беларусі і, магчыма, панска-шляхэцкая ўлада Польшчы хутка будзе забараняць нагогул беларусу гутарыць на сваей роднай мове. Усе выбітнейшыя беларускія грамадзскія дзеячы разсаджаны па турмах, і строга прасьлядуецца ўселякая грамадзкая праца на Беларусі. Усе беларускія культурныя прасьветныя таварыштва зьніштажаюцца, беларускія газэты канфіскуюцца, школы або зачыняюцца, або заменяюцца польскімі. Паведамляюць, што ў аднэй толькі Горадзеншчыне, дзе было сто пяцьдзесят беларускіх школ, засталося толькі дзьве, рэшта былі пазачыняны, ці то заменяны польскімі, ня глядзячы на пратэсты мейсцовага жыхарства. Селяне, каторыя выносяць прыгавары аб адкрыцьці новых беларускіх школ, і вучыцялі, которыя навучаюць у беларус-

кай мове, бязьлітасна ізьбіваюцца, арыштоўваюцца польскімі жандарамі. Беларускія землі заселяюцца, а беларускія селяне амаль што сталецьцямі церпяць ад беззямельля.

Карацей кажучы, польскімі імпэрыалістамі прыймаюцца уселякія варварскія мэтады для апалячываньня, акаталічываньня, каб зусім у рабства абярнуць беларускае селянства.

Лісты, якія атрымліваюцца з Беларусі, перапоўняны жальбой і чуць толькі скрытай ненавісьцю да польскіх вампіраў, захапіўшых і цяпер прыгнетаючых край, і бязумоўна, што беларусы не супакояцца да таго часу, пакуль ня высвабадзяцца з пад гнёту сваіх парабаціцеляў.

Селяне пачалі арганізоўвацца; яны выносяць пратэсты проці польскіх зьверстваў і паўстаюць проці нічым неапраўдываемых захватаў беларускіх зямель.

І тут перад намі ўстае пытаньне: ці можам мы, ці павінны мы, сыны гэтага прыгнецянага і замучанага народу, аставацца раўнадушнымі наблюдацелямі ўсіх гэтых насільстваў, нічога з свайго боку не пачынаць рабіць, у той час, калі нашы кроўныя браты ізнемагаюць там пад цяжкім ярмом няволі польскіх імпэрыалістаў і лапчывых паноў. Наш абавязак, наша сьвятая павіннасьць—прылажыць усе нашы сілы і стараньні к таму, каб высвабадзіць наш народ з пад цяжкага гнёту і няволі.

На масавым мітынгу, які адбыўся 6-га жніўня 1921 года па беларускаму пытаньню, пасьля ўсестароньняга разгляду гэтага пытаньня, быў выбраны камітэт абароны Беларусі, катораму і была даручана ўся далейшая праца.

Цяпер камітэтам рашано арганізаваць у недалёкай будучыне у горадзе Чыкаго масавы мітынг-пратэст проці зьверстваў польскіх імпэрыалістаў над беларускім народам.

У гэтай адозве камітэт зьвертаецца да ўсіх беларусаў, выхадцаў у Злучаных Штатах і Канадзе, з поклічам арганізоўваць гэткія жа камітэты і ў другіх гарадах, так сама склікаць масавыя мітынгі, вынасіць пратэсты, ўсестароньня высьвятляць беларускае пытаньне ў мейсцовай работніцкай прэсе і гэтакім шляхам падгатаўляць масы, каб, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, яны маглі-бы стаць перадавымі барцамі за вызваленьне беларускага народу з чэпкіх лапаў польскіх імперыалістаў.

Камітэт заклікае так сама ўсіх выхадцаў з Украіны, Прыкарпацкай Русі, Літвы, Бесарабіі, а разам і жыдоўскіх выхадцаў з гэтых мейсцаў і нашых польскіх таварышоў, якія не спачуваюць імпэрыалістычнай палітыцы Польшчы—ўсіх тых, чыя бацькаўшчына паняволена, як наша, польскімі і другімі імпэрыалістамі,—далучыцеся к нам для супольнай барацьбы з нашым агульным ворагам за высвабаджэньне працоўнага народу з капцюроў прыгнетацеляў і катаў яго“.

**Чыкагскі Камітэт абароны Беларусі.**

Як бачымо, справа беларуская арка пашыраецца, павялічываюцца ды змаганьнікаў за волю народную, за залежнасьць роднага краю.

У гару дух і сэрца! Цьясней гуртуйце свае рады, бо недалёка ўжо той дзень, калі скрозь хмары цёмныя загляне к нам яснае сонца праўды і волі!

**Т—ш.**

# Селянскія думкі аб „Роднай страсе“.

Сягоньня, 28 жніўня, нашы беларусы ымалі першы нумар газэты „Родная раха“. Мы ўсе надта зацікавіліся гэ новаю газэтаю, тым болей, што яна алоўлена „беларуская вясковая зэта“ І вось, атрымаўшы, з якою-то асьцю і страхам зайшлі мы на кваў да першага знаёмага чэлавека і дачытаць. Перш наперш накінуліся мы ерадавіцу. Ужо ад яе аднэй на сэрў нас стаў лёд,-алеж нічога, сабраліся амі, дачыталі да канца. Калі мы пралі ўсю газэту, нас проста раздумье о: ну, якія гэта людзі яе пісалі—паці нашы? Каб палякі, то яна была напісана па-польску, а то па нашаму, ыць, яе пісалі беларусы. Але якія гэуракі знайшліся, што так адкрыта юють і хочуць ашукаць нас, цёмных н?

Дзякаваць Богу, апошнія пакуты ылі нас адлічаць белае ад чорнага, ую руку ад левай, разбіраць праўду альшы. І ось нарэшці, усе мы зыя на адным, што газэту пісалі нашы русы халопы, панскія падлізьнікі, якім паны з сваёй дабраты далі добра паабедаць. А нам усім даўно ўжо ведама, што людзі халопы—праўдзівыя сабакі, чым больш паны іх душаць, тым мілей яны ім. Як відаць з аднэй толькі перадавіцы, яны гатовы хадзіць перад панам на задніх лапках, лізаць панскія ручкі і ножкі, а разам і талерачкі, абы паны былі толькі ласкавы з імі.

Да гэтага халопства завуць яны і ўсіх беларусаў, радзячы нам, зьняўшы шапку, цалаваць ручку ў яснавельможных і быць davoльнымі, што паны ездзяць на нашых карках і абіраюць нас, як сваіх дойных каровак. Ось, напрыклад, у першых радках перадавіцы сказана, што „Польшча найбольш з усіх нашых суседзяў зацікаўлена ў разьвіцьці беларускага руху. Дзеля гэтага было-б не рацыанальным вясьці беларусам барацьбу з сваім найдужайшым суседам, які, выходзячы з свайго ўласнага інтарэсу, зацікаўлены ў нашым разьвіцьці і можа намі памагчы“.

Праўда, Польшча вельмі зацікаўлена беларускім рухам і так яму дапамагае

што ўсе турмы і канцэтрацыйныя лагеры запоўнены нашымі лепшымі людзьмі, не гаворачы аб тых ужо, якія дапамагатарамі адпраўлены на той сьвет.

А школы нашы сеюцца на роднай старонцы і растуць, як грыбы посьля дажджу, зямелькі далі столькі нашым людцам, што яны ня могуць самі і абрабіць яе і прыходзіцца на дапамогу выпісываць рабочых аж ад самага пана Пілсудзкаго. Ну, і скажыце, добрыя людзі, як жа весьці барацьбу з Польшчаю за такія міласьці? Гэта—ж будзе чорная неблагадарнасьць з нашай стараны. Тут трэба проста расцалаваць паноў за такую дапамогу!

Далей газэта піша, что „раз мы далучаны да Польшчы, дык павінны шчыра стаць на грунце польскае дзержаўнасьці і, як грамядзяне Польскага гаспадарства, прыняць на сябе выцекаючыя адгэтуль абавязкі і карыстацца ўсімі правамі польскага грамядзяніна. Тут нашы халопы ўзіраюцца на ўсё праз панскія акуляры і сказалі панскую праўду Што мы беларусы нясём ня толькі тыя абавязкі, што і польскае грамадзянства, але нават і больш за іх, гэта нам добра ведама, але-ж дзе тыя правы, якімі мы, беларусы, маем карыстацца? Чыю зямлю каланізуюць? Нашу. Чые лясы вырубаюць?—нашыя; чые школы і коопэратывы зачыняюць?—нашы; каму і аказацца не даюць? нам! Няўжо—ж такімі правамі карыстаецца польскі грамадзянін?

Так ось, працаўнікі з „Роднае Страхі“ за такую дамапогу прызываюць нас не змагацца з польскімі панамі, а дзякаваць ім. Дзякуем вам, панскія прыхвастні, за добрую параду, будзьце шчасьлівы ўжо вы, а мы ня хочам такога шчасьця. Вы баіцеся і шкадуеце, што барацьба вызавець напрасныя нявінныя ахвяры і асіраціць не адну беларускую сямью. Напрасна вы льеце кракадылавы сьлёзы за гэтыя ахвяры, ляпей пагдядзеце кругом сябе, сколькі паны нарабілі сьвежых магіл на нашай старонцы і спытайце іх: за што? праз што? Газэта яшчэ піша, што „будзе з усіх сіл бараніць культурна-нацыанальныя і сацыальныя правы беларускага народу, прылучанага да Польшчы, што работа гэта цяжкая, і наперад кажа, што ў яе будуць пушчаць каменьнямі як з беларускага боку, так із боку некоторых польскіх кругоў. Што з боку беларускага будуць ляцець у вас каменьня, так гэта ўсякаму чэснаму чалавеку, не здрадніку, ведама Але я сказаў бы, што мала кідаць каменьня ў вас, пад ваш будынак па праўдзе трэба было-б падлажыць якогась дынаміту і ўзарваць яго разам з вамі, каб не ўнасілі ў жыцьцё нашага беднага аграбленага селяніна гэтага халопства, лёкайства каб не атручывалі яго свабоднага пачуцьця сваім гнілым дыханьнем.

Што належыць да польскіх кругоў асабліва эндэцкіх, дык яны наадварот кінуць у вас не каменьнем, а золатам. Праўда, можа знайдуцца і паміж палякаў такія людзі, якія будуць прэзіраць і гадзіцца вас, здраднікаў свайму народу. Але вам няма сораму, вам гэта нічога не значыць, вы ўжо прывыклі шляцца

панскім пярэднім і каб вам плявалі ў твар. Я зусім згодзен з аўтарам перадавіцы, „што нямнога ёсьць палякаў, якія-б разумелі ўсю карысьць для Польшчы зупэлна згоднай працы з беларусамі“. Праўда, нямнога ёсьць і беларусаў, якія-б відзелі карысьць супольнай працы з Польшчай, апрыч нашых дзеяоў з „Роднай Страхі“. От, гэтыя малойчыкі добра ўразумелі пользу супольнай працы, якая дае ім ня то што ніштожныя маркі, а цэлыя залатыя каменьня. Ну, і скажэце, добрыя людзі, чым гэта не дзеячы, не важакі нацыанальныя? Нарэшці хоць адна іх дагадка справядлівая, гэта тое, што як бы яны не агітавалі, што бы ня пісалі, беларускае грамадзянства і нат народныя масы ніколі за імі не пайшлі і ня пойдуць. Беларускі народ заўсёды будзе паддзержываць тых сваіх працаўнікоў, якія кажуць яму праўду, якія прызываюць яго скінуць з сябе панскае ярмо і строіць свабоднае лепшае жыцьцё. Тут то ўжо ніпто не паможа. Здаровы разсудак ясна кажа, што ад Польшчы прозьбамі, сьлязьмі нічога не дабьешся, бо што значыць для яснавельможных наш замучаны аграблены народ? Для іх гэта ёсьць толькі „беларусінскае быдло“, каторае дой, пакуль можна, ды гуляй. Тры гады істанаваньня ў нас Польскага „жонду“, ясна гэта нам доказала і нават хто быў сьляпы да гэтай пары, цяпер стаў відушчым. Усім беларусам цяпер ведама, што не цалаваньнем панскае ручкі, ня хныканьнем, а толькі ўпартай барацьбой здабудзем мы сабе ўсе сваё правы і вольнасьці. Панам з „Роднай Страхі“, калі гэта ня ведама, дык раджу падумаць аба ўсім і не ўнасіць свайго атручываючага яду ў душу нашага селянства, якое стало ужо на цьвёрды грунт свайго нацыанальнага адраджэньня. Вы павінны добра ведаць, што паноў „даўно ўжо вяроўкі чакаюць і па іх асіны сьлёзы праліваюць“. Прыдзе час, калі путы зьдзеку і рабства з нас спадуць, і беларусы вольным чалавечым жыцьцём зажывуць. Бойцеся, каб не папалі на адну галіну з па памі!

**С. Забалотны.**

# СУЧАСНЫЯ ДУМКІ.

Недаўна мне прышлося гутарыць з адным беларускім дзеячом, чалавекам вельмі інтэлігэнтным і ўсімі паважаным, каторы проста і зусім адкрыта паставіў мне вось гэтакае пытаньне:

— Скажыце, вы стаіце за незалежнасьць Беларусі, і селянства, па вашаму, будзе тым станам, на які будзе апірацца ўсё дзержаўнае будаўніцтва — якая-ж роль, па вашаму, павінна быць інтэлігэнцыі ў працэсе адбудаваньня Беларускай дзержаўнасьці?

Я адказаў:

— Інтэлігэнцыя павінна аддаць усю сваю веду і ўсе свае здольнасьці ў працы на карысьць селянства.

— Якая-ж, пытае, карысьць з гэтага будзе для інтэлігэнцыі?

— А карысьць тая — адказаў я, што калі інтэлігэнцыя ў сваей працы будзе кіравацца выключна трудавым інтарэсам селянства, то яно сумее ацаніць працу інтэлігэнцыі і адвядзе ёй пачэснае мейсца, гэта азначае, што інтэлігэнцыя будзе шмат у лепшых варунках жыць і працаваць, чымся калі яна служыла стану паноў і капіталістаў.

— Вы так думаеце?

— Але, я так думаю і нават больш таго, я ў гэтым пераконаны.

— А ці не дапускаеце вы тае думкі, што селянства, атрымаўшы „зямлю, волю і лепшую долю“, як вы кажаце, што яно тагды махне на ўсіх і ўсё рукой, будзе сабе добра жыць і ні аб чым думаць не захоча, не захоча нічога вязьці прадаваць у горад, бо само будзе лепш карміцца; дык вось і інтэлігэнцыя, якая ў большасьці ўсё-ж-такі будзе жыць у горадзе, будзе пастаўлена ў страшэнна цяжкія варункі...

— Э, што вы? Як сын селяніна, я мушу адзначыць, што калі селянства крытычна адносіцца да сучаснага гораду, то мае на гэта рацыю. Наш беларускі горад, у поўным сэнсі гэтага слова, з'яўляецца чужаедам. Горад амаль што нічога не вырабляе, а толькі спажывае. У найлепшым выпадку ен з'яўляецца пасрэднікам (агэнтам) паміж селянствам і вялікімі прамысловымі цэнтрамі, дзе вырабляюцца патрэбныя селянству рэчы, як напрыклад: селянска-гаспадарскія машыны, мануфактура і г. д.

Селянства не бачыло да гэтага часу а ніякай для сябе карысьці ад нашага гораду, не бачыло і працы інтэлігэнцыі. Селянства бачыло толькі „грознае начальства“, якое выдавала розныя загады і трэбовала іх бязпрыкаслоўнага выпаўненьня. Найбольш быў блізкі да селяніна народны вучыцель, але і той, знаходзячыся ў вялікай залежнасьці ад гарадзкога начальства, мала што мог зрабіць, яго праца была мала заметна селянству. Горад для нашага селянства быў нейкім незразумелым „чудовішчам зла“, мейсцам, дзе жыве строгае начальства і дзе людзі, нічога ня робячы, жывуць у раскошы і давольстві, — вось як наш селянін разумеў горад. І ня дзіва, калі ён так глядзеў на кожнага гарадзкога жыхара, а ў тым ліку і на інтэлігэнцыю.

Ня трэба забываць, што інтэлігэнцыя была яшчэ і чужой па мове; наш селянін не разумеў, што яна кажа яму і ён пакорна слухаў, бо неяк інтуіцыйна адчуваў (відаць по горкаму опыту жыцьця), што гэта „мусіць нейкі строгі загад начальства выдало, бо надта-ж ужо нешта моцна гукае“. І вось наш селянін паслухае, як гэта „начальства моцна гукае“ нешта вельмі яму незразумелае, пачухае сябе ў пытыліцы і пойдзе да хаты

разводзячы сваімі мазольнымі рукамі, а калі спытаць, у чым рэч, ён ня вельмі то хутка і адкажа табе, бо сам ня ведае — „хто яго там разбярэць“.... І жыў наш селянін у сваім зусіх бакоў „начальствам“ абмяжованым кругу. Ён ніхто не разумеў, і яго ніхто не хацеў зразумець. Адны глядзелі на яго, як на аб‘ект русыфікацыі, а другія — як на аб,ект полонізацыі. Ламалі яго самабытную індывідуальнасьць, урываліся ў яго душу, каверкалі яго лепшыя рысы нацыанальнага быту. Так нясьлі культуру на Беларусь, у беларускую селянскую хату — паны з Варшавы і Масквы, праз сваіх чыноўнікаў, вучыцялёў і г. д. — адным словам, праз сваю інтэлігэнцыю. Праўда, у гэтай працы ім шмат дапамагалі кадры імі ўтворанай арміі беларускіх рэнэгатаў. Гэтыя рэнэгаты — духоўныя рабы Варшаві ці Масквы — ёсьць зьлейшыя ворагі беларускага народу. Гэта яны былі сьляпым аружжам у руках Варшавы і Масквы, каб наш селянін стаў „дурны як варона“, але, як бачымо, сваей мэты яны не дасягнулі. Не скавалі рабскім сном вачэй селяніна. Селянства дружна з касамі і серпамі паўстало на „зладзеяў, на панства“; яно ўжо знае, „што трэба рабіць“ !

І зусім што іншае, калі наш селянін бачыць ня „грознае начальства“, а свайго брата, сына мужыцкага, вольнага народніка інтэлігэнта, які яго разумее, разумее яго крыўду, бяду, цяжкую нядолю, разумее сум яго „збалелай душы“ — так, і селянін зразумее гэтага інтэлігэнта. Вы кажэце, што ня ўся інтэлігэнцыя вышла з селянскай хаты, што ня ўсе ёсьць сыны мужыцкія. — Так, я згодзен з вамі, — Ваша праўда. От-жа, дзеля гэтага яна і павінна пазнаёміцца з селянскай хатай, павінна прыслухацца да голасу гэтага сермяжнага, векамі прыгнецянага жыхара вёскі. Няхай ня з кніг знаёміцца з селянскім жыцьцём, а беспасрэдна: няхай ідзе на вёску, як да свайго брата, як да сваей раўні і там няхай вучыцца таму, якая павінна быць роль інтэлігэнцыі ў высвабадзіцельнаадраджэнскім незалежніцкім руху селянскай Беларусі. Там інтэлігэнцыя знайдзе шмат для сябе духоўнай стравы, там яна ўбачыць свае мэты і заданьні, там яна знайдзе сабе даволі сілаў, каб уцелаісьціць гэтыя мэты. І тая народніцкая інтэлігэнцыя, якая ў чорны дзень падае братоўскую руку, дапамагае цёмнаму, пакрыўджанаму, усімі пагарджанаму жыхару вёскі, — верце, гэта інтэлігэнція ніколі ня будзе забыта селянствам.

Цяпер селянства стыхійна паўстае на змаганьне за свае чалавечыя правы. Селянству патрэбны кіраўнікі, патрэбны палкаводцы, іх — то і павінна даць інтэлігэнцыя.

А тое, што вы кажэце, „селянства, атрымаўшы зямлю, волю і лепшую долю, можа на ўсіх і ўсё рукой махнуць, будзе сабе добра жыць і ні аб чым думаць не захоча“, — я з гэтым абсалютна ня згодзен. Ласьне, толькі тагды і адчыніцца шырокі прастор для духоўнага развіцьця селянскіх мас. Якое ліха цяпер селяніну да навукі, да школы, калі ён зму-

маны ня жыць, а проста, як той казаў, „празябаць“ у цеснай бруднай каморцы, разам з жывёлінай. Аб чым тут можа быць і гутарка, так гэта ўсё ясна.

Селянін — вы кажэце — незахоча нічога вязьці ў горад прадаваць, бо сам будзе лепш карміцца. — Гэта ёсьць сьвятая праўда. На што прадаваць, калі самому патрэбна. Няўжо на тое прадаваць, каб сям'я з голаду, ад вечнай сухоўрыцы, памірала? Няўжо таму прадаваць жыта, напрыклад, каб сям'я хлеб з мякінаю ела? Няўжо таму прадаваць малако, сыр, масла і яйкі, каб селянскія дзеці іх ніколі не бачылі?

У цяперашнім часе так дзеіца: селянін апошняе вязе на кірмаш прадаваць, каб мець за што сабе купіць якінебудзь фунт солі, кусок жалезьзя на плуг ды барану. Ён апошняе прадае, бо няма за што купіць. Дзяруць з яго сто шкур за соль і жалезьзё—дзярэ і ён за жыта і авёс. Тут ёсьць пэўная заканамернасьць. Але апрача гэтага дзяруць з селяніна падаткі, дзяруць розныя „продналогі“, законнымі і беззаконнымі рыквізыцыямі забіраюць у селяніна апошні з плеч кажух, апошняе парасё, апошні кусок хлеба. Чаму вы гэтага не бярыцё пад увагу? Гэта ёсьць вопіюшчыя факты сёняшняга дня, факты, выкліканыя агульнай ненармальнасьцю сучасных варункаў акупацыі, калі паны з усходу і з заходу, у акупованым ім краі, вядуць хіжацкаграбежніцкую гаспадарку. Іх не цікавіць, што далей будзе, якія будуць вынікі з іх марнатраўства беларускага народнага дабра, ім бы толькі больш награбіць, выжаць, калі гэта можна, апошнія сокі з беларускага народу. От-жа, нашым першым заданьнем з'яуляецца: прагнаць з роднага краю чужацкіх наездцаў — акупантаў і ўстанавіць нармальныя варункі жыцьця. Усё зло ад таго, што наша бацькаўшчына ляжыць цяпер распластанай пад ботам акупантаў.

Ад гэтага церпіць селянін і работнік, ад гэтага церпіць інтэлігэнцыя. Адны толькі спэкулянты ды розныя прайдзісьветы цяпер нажываюцца, яны любяць рыбку лавіць у мутнай вадзіцы. Яны, часамі, штучна нават надвышаюць цэны на тавары, каб больш толькі набіць сваю кішэню. Але спыніцца гэтая шалёная спэкуляцыя, калі будзе устаноўлены нармальны лад, калі на Беларусі будзе ўсім правіць сам беларускі народ. Вось тагды і павінна будзе інтэлігэнцыя ўзяцца за працу, каб правільна наладзіць увесь гаспадарскі апарат. А гэта магчыма будзе праз коопэрацыю. Ужо амаль што ня ў кожнай валасьці, амаль што ня ў кожным мястэчку ёсьць заложана спажывецкая коопэратыйная крама. Коопэрацыя і цяпер нават магла-б расьці і пашырацца, каб не перашкаджалі гэтаму акупанты, якія ў корні спыняюць уселякую прыватную ініцыатыву ў гэтым напрамку, не даюць магчымасьці разьвіцьцю грамадзкай самадзеяльнасьці. Аднак, ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку акупантаў, селянства, усё-ж такі, упарта бароніць свае правы. Селянства вядзе барацьбу за ўзмацаваньне коопэрацыі. Неабходна, каб і ўся

сьвядомая інтэлігэнцыя зараз-жа прыступіла да самай актыўнай працы. Бо ў коопэрацыі патрэбны розныя спэцыялісты, патрэбны опытныя бугальтары, канторшчыкі, патрэбны інструктары, патрэбны гандлёвыя агэнты як у краі, так і за граніцай. Ды ці мала патрэбна сьвядомых опытных інтэлігэнтных працаўнікаў. Мейсца кожнаму хопіць. Патрэбна толькі ініцыатыва, патрэбна актыўная праца. А калі так, калі інтэлігэнцыя зараз-жа пойдзе працаваць ва ўсе грамадзкія селянскія ўстановы, калі прыложыць усю сваю тэорытычную і практычную веду да селянскай, а гэтым самым і да агульна-нацыанальнай справы, — тагды, само сабой, зьнікне, як чорная хмара, пытаньне аб тым, што быццам — то селянін не павязе ў горад прадаваць сваіх сельска-гаспадарскіх прадуктаў, таму што будзе сам лепш карміцца, ад чаго інтэлігэнцыя і работнікі апыняцца ў страшна цяжкім становішчы. Зразумелая рэч. Селянін і не паедзе тагды з возам у горад, каб прадаваць там які пуд жыта, яму шмат карысьней будзе аддаць гэты пуд жыта ў сваю коопэратыўную краму і атрымаць за гэта куды па танейшай цане солі, жалезьзя або што іншае.

Павінен быць устаноўлены толькі правільны тавараабмен горада і вёскі, а тагды ўсім хопіць на пражыцьцё, хто сам працуе, а не стараецца жыць з працы чужых рук. Тое-ж, што селянін пры новых варунках лепш будзе жыць, ня будзе больш ужо цярпець праклятай сухоўрыцы, — ласьне, мы гэтага і дабіваемся. Гэта ёсьць першае аснаўное нашае дамаганьне.

Вы тут заўважылі аб школах. Сьмешны інтэрас...., а ціж мы высказываемся проці школы? Наадварот — трэба вучыць грамаці селянскіх дзяцей. І ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку акупантаў, ня гледзячы на тое, што польскія акупанты зачыняюць беларускія школы, а вучыцялёў па турмах саджаюць — трэба вучыць грамаці селянскіх дзяцей. Трэба напружыць усе сілы, трэба праявіць максімум стойкасьці і нашай беларускай упартасьці, а каб беларуская селянская моладзь мела такі асьвету. Польскія акупанты не даюць легальнай беларускай школы, — хай будзе нелегальная. Не плацяць вучыцялю пэнсыі польскія акупанты — дарам хай вучаць, селянства дасьць і цёплы куток і пражыцьцё. І зноў такі, патрэбна ініцыатыва, патрэбна актыўная праца. Бо калі мы ўсе згоднай грамадой і кожны паасобку, але ў адным і тым самым напрамку будзем працаваць, будзем праяўляць максімум сваей ініцыатывы, сваей працаздольнасьці і сваей стойкасьці ва ўсіх кірунках грамадзка-палітычнага, гаспадарскага і культурнага жыцьця, — мы тагды хутка дасягнём сваей мэты.

---

Разважаючы цяпер аб нашай гутарцы, я прышоў да гэтакай думкі: нас зусіх бакоў ціснуць акупанты, асабліва польскія паны; яны душаць і стараюцца зусім такі задушыць наш беларускі вызвабадзіцельна-адраджэнскі незалежніцкі

рух. Што-ж, мы на гэта? От-жа на самы перад мы павінны самі добра арганізавацца і дасканальна ўсьвядоміць сабе нашы мэты і заданьні. Неабходна, калі дзе толькі ёсьць хоць якая-небудзь легальная ці нелегальная магчымасьць, каб там зараз-жа быў заложаны гурток. Для гэтага не патрэбна шмат людзёў. Патрэбна толькі ініцыатыва аднаго, двух чалавек, якія склікалі-б сход гуртка і сьлядзілі, каб не папаў хто пастароньні, калі гурток істнуе нелегальна. У гэтым гуртку павясьці шырока ўсьвядаміцяльную працу, як культурна-нацыанальную, так і соцыяльную. Усестароньне высьвятляць справу дзержаўнага адраджэньня прыгнецяных ды паняволяных нацый; чаму беларусы павінны змагацца за сваю незалежнасьць; якія павінны быць мэтады змаганьня супроць Рыжзкага мірнага трактату, падзяліўшага Беларусь на часьці; якія павінны быць мэтады змаганьня супроць акупантаў: усенароднае рэвалюцыйнае паўстаньне, ці шляхам эволюцыі; чаму трэба стаяць за беларускую рэвалюцыю; які павінен быць дзержаўны ды палітычны лад незалежнай Беларусі; як развязаць зямельнае пытаньне; хто мае права на зямлю; з кім з сваіх суседзяў Беларусь павінна ўвайсьці ў саюз; дзеля чаго патрэбны гэтакі саюз; што такое Рада Беларускай Народнай Рэспублікі; што такое урад Б. Н. Р. і за што ён змагаецца; нашы бліжэйшыя мэты і заданьні: як установіць зьвязь з адпаведнымі беларускімі палітычнымі партыямі і арганізацыямі; як пашыраць літэратуру; што рабіць у бліжэйшым часе і г. д.

Вось тыя пытаньні, якія неабходна ўсестароньне выясьняць у такіх гуртках. Пасьля, ўстанавіўшы зьвязь з адпаведнымі арганізацыямі, атрымаўшы зтуль належныя дырэктывы і ўказаньні, прыступіць да актыўнай працы, або, як той казаў—узяць у рукі таўкач і біць ім па галаве акупантаў, біць так моцна, каб аж іскры з вачэй у іх сыпаліся!......

**Антон Небарака.**

# ШКОЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ.

Кожны раз восеньню, калі пачынаецца вучэбны год, перад беларускім грамадзянствам паўстае балючае запытаньне: „А як то пойдзе сёлета школьная справа?“

Што-ж у гэтым гаду мусім мы адказаць на гэта пытаньне?

Дзе-якія паляпшэньні ў гэтай справе можна забачыць у Савецкай Беларусі.

З гэтага году пачне істанаваць Беларускі унівэрсытет у Менску.

У гэтым месьці бязумоўна беларуская школьная справа шмат пасунулася ўперед. Як бы то ня было, а ўжо ад

самых беларусаў залежыць, каб справа ў вышэйшай беларускай школе была пастаўлена так, як пажадае і здалее зрабіць само беларускае грамадзянства. Затым пачне з гэтага году істанаваць беларуская тэатральная студыя, разлічаная на 60 вучняў.

Так сама і ніжэйшыя школы ў Савецкай Беларусі будуць беларускія. Але гэта толькі ў Менску і Менскай губэрні.

З вялікай журбой прыходзіцца канстатаваць, што ў другіх беларускіх губэрнях, адышоўшых да Расеі, беларуская справа, прынамсі ў гэтым гаду, будзе стаяць зусім кепска.

Далей парушылася беларуская школьная справа ў Лâтвіі. Можна спадзевацца, што з гэтага году там пачне істанаваць каля двух дзесяткаў пачатковых беларускіх школ.

Дзе-што, прынамсі сярод жаўнераў беларускага батальёну, пачне з гэтага году рабіцца і ў Літве.

Належыць адзначыць вельмі прыхільныя адносіны да беларускае моладзі з боку Чэшскага Ураду. Беларусам з належнай падгатоўкай дазволена паступаць, без абмежаваньня ліку, ва ўсе вышэйшыя школы Чехаславакіі; апрыч таго, беларускім студэнтам прэдастаўлена 20 стыпендзіяў.

Але ёсьць яшчэ дзяржава, дзе павінны былі-б інставаць беларускія школы, дзе ў чатырнаццаці паветах беларусы складаюць пераважную большасьць мейсцовага жыхарства: гэта шляхэцкая Польшча.

Пад крывавай лапай гэтага упыр: справа беларускай школы ня толькі н: пасуваецца, а ва ўсіх кірунках пагоршы лася: з 150 беларускіх школ, меўшыхс: да прыходу палякаў у Горадзеншчыне, ў сучасны момант засталася толькі I.

Пабудованая за кошт беларускаг. народу (беларускіх коопэратываў) Бела руская гімназія ў Будславе два разь была зьліквідавана палякамі, прычым, ў 1919 гаду—гімназія налічывала больш 300 вучняў, а ў 1920 г. каля 800 вучняў Гэта гімназія давала асьвету пераважн: селянскім дзеткам, і цяпер жыхары, кры ху папрабаваўшыя ад крыніц веды, заў сёды будуць адчуваць неўталімую прагу „Не пазвалям!“, кажуць шляхэтныя аку панты, каб селянскія дзеці мелі такук самую „адукацыю, як панскія“.

Затым польскія паны зьнышчылі Бе ларускую Вучыцельскую Сэмінарыю, ў Барунах і робяць замахі на іншыя бела рускія школы, каб так сама зруйнаваць іх, як у Горадзеншчыне.

У Віленскі унівэрсытэт ня пушчаюц тых беларусаў, якія не хацелі сваім ўласнымі рукамі здабываць сабе і сваім бацькам панскага ярма,—за тое, што няйшлі ахвотнікамі ў армію польскаі шляхты.

Наша настаўніцтва дзе шмат на цярпелося мукі ад акупацыйнай улады прымушанае працаваць бяз грошы: ут рымліваючыся толькі тым, чым здалеў дзя ліцца з ім наш абездолены, галодны се лянін, да канца еднало сваю долю з се лянствам і разам умірала галоднаі сьмерцью.

Цяпер польская шляхэцкая ўлада нарыхтавалася зусім зьліквідаваць беларускае вучыцельства, забраць яго ў Кракаў, каб нашых адукованых грамадзян адарваць ад сваіх братоў, ад народу, а самы народ спутаць, абгальмаваць і, забіўшы на польскі капыл, зрабіць з яго даўнейшых панскіх служак.

Цяпер ужо непатрэбна пераконываць людзей у тым, што патрэбна адукацыя, бо кожны гэта ведае і па магчымасьці стараецца, каб сваіх дзетак пасылаць у школу; але ня ўсе беларусы пераканаліся ў тым, што патрэбна свая, беларуская школа.

Вось на высьсьвятленьні апошняга пытаньня я крыху затрымаюся.

Чаму патрэбна свая — беларуская школа? Школа ў роднай матчынай мове гэта права і абавязак кожнага народу, паважаючага самога сябе; кожны чалавек, шануючы сваё жыцьцё, сваю матку, павінен ведаць і адукавацца ў роднай мове і па сіле магчымасьці пашыраць яе хараство.

Матчына мова — мова дзяцінства; гэта мова, у якой сьпявалі песьні над дзіцячаю калыскаю, у якой апавядаліся дзецям казкі, гэта мова, у якой дзіцятка сказало першае слова, у якой пачаўся яго, чароўны для бацькоў, лепет. З роднай мовай зьвязаны ўспаміны аб лепшых самых важных гадзінах у жыцьці кожнага чэлавека.

Чым больш цікава народная паэзія краю, тым больш здольным лічыцца і сам народ.

Чым больш распрацована мова, тым больш на ёй па рожным галінам веды надрукована кніжак, тым больш высокай лічыцца культура даннага народу.

## Школа ёсьць падстава ўселякай культуры і дабрабыту грамадзянства.

Беларуская школа важна ня толькі для асабістага пачуцьця,— родная школа патрэбна і мае надзвычайную вагу ў палітычным зьмесьці і асабліва ў перажываемую эпоху, калі чалавечаства ў падставу паміжнородных адносін паклало вялікі лёзунг самаазначэньня народаў.

Цяпер усім чалавечаствам прызнаецца, што кожны народ мае права на вольнае жыцьцё, мае права збудаваць ў сябе такі лад, які больш уплывае і адпаведае яго пачуцьцю і пажаданьням.

І вось, калі мы жадаем карыстацца гэтымі правамі самаазначэньня, мы павінны перад усім сьветам паказаць, што мы, беларусы, запраўды асобны народ, маючы сваю мову, звычаі і культуру.

Першае, што павінна у нас быць, гэта свая школа.

Родная школа навучыць таму, як жылі нашы продкі—навучыць гісторыі роднага краю.

Родная школа высьвятліць перад нашым грамадзянствам сапраўдныя мэты жыцьця, агульныя ідэалы.

Родная школа навучыць змагацца за асягненьне гэтых ідэалаў, за асягненьне агульнага дабрабыту працоўных мас.

Родная школа вырабляе нацыянальную моц, выкоўвае народных змаганьнікаў за правы і вольнасьць.

Вось чаму з такім жудасным гвалтам накінуліся акупанты на беларускую школу-

Вось чаму яны гнояць па турмам і даводзяць да галоднай сьмерці беларускае вучыцельства.

Нішчачы нашу родную школу, яны гэтым самым гальмуюць правы беларускага народу на дзержаўнасьць, на волю.

Нішчачы беларускую школу, акупанты рыхтуюцца назаўсёды зрабіць наш народ сваім быдлам. Селянству трэба добра ўсьвядоміць сабе ўсю вагу беларускай школьнай справы.

Аб роднай школе трэба амаль што так сама руліцца, як аб хлебі для дзіцяці; бо пакуль нябудзе роднай школы, да тых пор нашым дзецям пагражае небязьпека заставацца ў панскай няволі і сваей працай карміць польскага пана, а самому паміраюць з голаду.

Памятайце, што родная школа ёсьць першы этап для асягненьня дабрабыту і волі нашаму працоўнаму народу.

Ня слухайце ўселякага нагавору, чым баламуцяць вас розныя паны ды іх прыслухачы, кажучы, что наша мова простая і што з ёю нікуды ня дзенешся.

Гэта мана і злосная мана!

Нашу мову лёгка зразумеюць і ў Варшаві і ў Маскве; а на чужбіне—ў немцаў ,амэрыканцаў усё роўна не разумеюць як нашай, так і расейскай, роўным чынам і польскай мовы.

Родная школа важна тым, што ў ёй лягчэй адукваацца, а, ведаўшы добра адну родную мову, куды лягчэй уцяміць у выпадку патрэбы і іншыя мовы, бо ўсе мовы маюць больш меньш аднальковыя правілы.

Даўней шмат народаў карысталіся латынскай мовай. Ня гледзячы на тое, што дзіцяці даводзілося па 12 гадоў бяз выезду вучыцца ў школе, навука асабліва шпарка не пашыралася, бо шмат часу марнавалося, пакуль вучань здалее больш меньш аўладаць мовай і на запраўдную навуку мала заставалося часу. Навука шмат пашырылася, калі дзеці пачалі адукавацца ў роднай мове.

Даўней адукацыя на бацькаўшчыне ў нас адбывалася ў роднай мове, а ў Польшчы—ў латынскай, і навука польская куды горш была ад нашай: захавалася шмат матэрыалаў, у якіх выразна зазначана, што ў даўныя часы палякі ў справе навукі шмат карысталіся і пераймал ад нас.

Польская навука пашла куды напе рад, калі палякі пачалі карыстацца н вукай у роднай мове, наша-ж навук амаль што загінула заўсім, калі паля пасьля 1692 году забаранілі нам кары тацца ў дзержаўных усгановах і ў шко лах роднай мовай і прымусілі перайсы на нібы то пнскую мову.

Цяперака для паміжнарадовых а, посін прыдумалі досыць простую і д

сіх зразумелую мову „Эспэранто“; на ёй іводзін народ не гавора, а шмат людзей вучаць, вучыць жа будзем і мы ў ваіх школах і будзем карыстацца ёю, алі будзе патрэба выехаць за кардон, з польскай „панскай“ так сама далёка я ўедзеш.

От-жа, браты!

Наша школа ёсьць падстава і першы рок для асягненьня волі, для асягненьня ваей дзержаўнасьці і дабрабыту працоўых мас.

Будзем-жа, браты—селяне, крэпка аяць і дамагацца сваей роднай беларуский школы.

Хваленая-ж панская школа дае магчымасьць нашым ліхадумцам і ворагам зручней накінуць на нас сваё панаваньне.

Будзем кіравацца да асьветы, але ў сваей роднай мове.

Будзем пасылаць нашых дзетак у патаемныя беларускія школы, калі не дазваляюць адчыняць звычайныя беларускія школы.

Будзем падтрымліваць нашых беларускіх вучыцялёў, гэтых правідцаў і папярэднікаў нашага адраджэньня.

Будзем шанаваць сваю беларускую кніжку, гэтую вясьнянную ластаўку нашай волі.

**Пуцята.**

---

# Як змагаюцца галіцкія украінцы за волю.

Галіцкая Украіна (усходняя Галічы) знаходзіцца ў такім-жа цяжкім становішчы, як і наша бацькаўшчына, так ма і ў Галіцыі панўе самапраўства і здзек польскіх акупантаў, як і ў нас на ларусі. Стогне Галіцыя пад пятой польх гвалтоўнікаў.

Галіцкія украінцы, пераканаўшыся, о з польскімі панамі гутарка магчыма ькі з бомбай і рэвальвэрам у руках, на адзін мамэнт не пераставалі вясьці ую актыўную рашучую барацьбу з там акупантаў. Найяскраўшым мамэн у гэтым гэроічным змаганьні з'яўцца выстрэл з рэвальвэра маладога аінскага студэнта Сьцепана Федака, раздаўся ў Львове 25-га Кастрычніка га году ў Начальніка Польскай дзержавы Пілсудзкага і ў польскага ваеводу львоўскага округа графа Грабоўскага.

Сьцепан Федак даў тры стрэлы. Пілсудзкі і Грабоўскі былі ў адным аўтамабілі, але ні адна куля не папала ў Пілсудзкага, за тое цяжка ранены аказаўся Грабоўскі.

Тут-жа на вуліцы, разбэшчаны польскі натоўп, кінуўся на украінскага гэроя і, вырваўшы яго з рук паліцыі, пачаў яго біць і мучыць. Пасьля акрываўленага і ледзьве жывога адвязьлі ў турму, дзё ён знаходзіцца пад сьледствам. У зьвязку з гэтым арыштована шмат выдатнейшых украінскіх дзаячоў. Перапалоханыя польскія акупанты шукаюць украінскай тэрорыстычнай арганізацыі.

Сьцепан Федак, як паведамляюць

украінскія часопісі, сын львоўскага адваката, мае 24 гады. Акончыўшы украінскую акадэмічную гімназію ў Львове, ён у 1915 г. пасгупіў у Саюз Украінскіх Сечавых стральцоў, быў слухачом аўстрыйскае вайсковай акадэміі. Пасьля распаду Аўстрыі і абвешчаньня Галіцкай Народнай Рэспублікі ён пасгупіў у рады украінскай галіцыйскай арміі, дзе служыў паручнікам. А калі польскія паны падняволілі Галіцыю, і Украінскія вайсковыя арганізацыі змушаны былі расфармавацца, вярнуўся ён да хаты і жыў у сваіх бацькоў у Львове.

Малады Сьцепан праз увесь час школьнай навукі належаў да самых ідэйных хлапцоў і гарачых патрыотаў.

Вельмі шмат чытаў і вучыўся, каб набраць больш глыбокай і шырокай веды шляхам самаабразаваньня.

Бацькі хацелі, каб ён паехаў дзе небудзь заграніцу вучыцца, бо ў Львоўскі унівэрсытэт палякі украінцаў ня прынімаюць, але Сьцепан Федак выбраў сабе іншы шлях. Ён рашыў аддаць сваё жыцьцё на змаганьне супроць польскіх катаў, бо любіў свой народ. І ўсё, што меў, ён ахвяраваў для яго.

---

Беларуская моладзь! Учыся любіць свой родны Край; учыся любіць свой прыгнецяны, усімі пагарджаны, сермяжны народ; учыся змагацца за волю сваей бацькаўшчыны!

Запомні гэта: чало нявольніка ўкрашае не залаты вянок, а з церняў зьвітая карона,—яна высвабаджае дух з кайданоў няволі, а „духа змаганьня за праўду і свабоду ніколі ніхто не пагасіць“!

**Паддубіч.**

# ЗЬМЕСТ № 4.



Выдавец: Сувязь Беларускага Працоўнага Селянства.
Рэдактар: Рэдакцыйная Камісія.